

магілёўскі

# Выбар

№ 2
Люты
2012 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

## Юрый Новікаў: Не трэба апускаць рукі, нічога немагчымага і вечнага няма!



*Юрый Новікаў*

**Юрый Новікаў, 49 год, жанаты, мае дарослага сына-аспіранта. Пасля тэрміновай службы ў ВМФ з 1984 года па 1999 год працаваў на Магілёўскім заводзе “Зеніт”, потым на розных выбарчых пасадах у Свабодным прафсаюзе Беларускім. Зараз з’яўляецца старшынёй Магілёўскай рэгіянальнай арганізацыі, намеснік старшыні СПБ. Старшыня Каардынацыйнай рады Магілёўскай абласной кааліцыі дэмакратычных сілаў.**

*Якія праблемы ў нашым горадзе выходзюць на першы план?*

Праблемы горада - гэта найперш праблемы яго жыхароў. А праблемы жыхароў Магілёва такія ж як і ва ўсіх беларусаў - гэта нізкі ўзровень жыцця, нізкія заробкі, высокія кошты, кепскае здароўе, дрэнныя ўмовы працы, дарагое і не вельмі якаснае навучанне і яшчэ шмат іншых вялікіх і дробных праблемаў. Угледзіцеся ў твары нашых людзей, паглядзіце ім у вочы, усё бачна і без пытанняў. Калі існуе столькі асабістых праблемаў, то паверце, становіцца ўсё-роўна да праблемаў горада, краіны і наогул ўсяго белага свету.

*Што неабходна мяняць, каб мясцовая ўлада працавала больш эфектыўна, а дэмакраты былі больш заўважнымі?*

Так і хочацца адказаць коратка - трэба мяняць саму ўладу.

Эфектыўнай можна лічыць працу той улады, якая не перашкаджае працаваць і камфортна жыць астатнім. Па-першае - уладу павінны выбіраць самі мясцовыя жыхары. Па- другое – фінансаванне мясцовай улады таксама павінна быць толькі з мясцовага бюджэту. Па- трэццяе – усё гэта павінна быць празрыстым і адкрытым, а суды павінны быць незалежнымі. І гэта толькі першыя ўмовы, якія неабходна выканаць, без якіх наогул не пра якую ўладу і размаўляць няма сэнсу.

Што адбываецца зараз - кіраўнікоў усіх рангаў, нават дырэктароў заводаў, фактычна прызначае Лукашэнка. Фінансаванне ў мясцовыя бюджэты ўсіх узроўняў таксама адбываецца праз “вертыкаль”. У гарадскога Савета дэпутатаў няма нават свайго рахунку ў банку і яны нават паперу для прыбіральні павінны ў кагосьці прасіць. Скажыце што агульнага ў такой улады з астатнім насельніцтвам?

Што тычыцца другой часткі вашага пытання, то тут хачу адзначыць, што дэмакраты, ці як іх клічуць апазіцыянеры, гэта не крышнаіты і не бапцісты. Яны не будуць хадзіць па вуліцах з бубнамі, ці ўзяўшыся за рукі, каб іх заўважылі. Мне падаецца, што на апошніх прэзідэнцкіх выбарах грамадскасць дэмакратаў не толькі вельмі добра заўважыла, але і запаважала, таму і была такая жорсткая рэакцыя з боку рэжыму. Гэта толькі ўсяляе надзею на тое, што не ўсё так дрэнна ў апазіцыі, хутчэй наадварот, улада сур’ёзна пахіснулася і да яе ўсё менш даверу.

***(Пачатак. Заканч. на стар. 2)***

## ЗВЫКЛЫМ АЎРАЛЬНЫМ СПОСАБАМ




На наступны дзень пасля наведвання кіраўніком ураду сп. М. Мясніковічам “сталіцы” сёлетніх “Дажынак”, паседжанне будаўнічага штаба тут правёў старшыня абвыканкама сп. Пётр Руднік. Ніхто не падлічвае пакуль ды і не стане рабіць гэтага ўвогуле, колькі ж каштуюць такія начальніцкія вояжы ў Горкі ад Мінска і Магілёва?! А магчыма, што і дарма гэта не робіцца. Бо дзясяткі легкавых аўтаў у шчыльным супраавадажэнні ДАІшных машынаў і пастоў, якія практычна штотыдзень а то і часцей коўзаюцц па раёне, каштуюць зусім немала. Можа быць на гэтыя сродкі можна было б зрабіць штонебудзь сапраўды карыснае для пасёлка і ягоных жыхароў. Ды вось хоць бы абсталяваць роварныя дарожкі ў пасёлку, дзе, дзякуючы беларускай сельгасакадэміі, пражывае шмат моладзі. Як цяпер гавораць, гэтая “прсунутая” моладзь не першы раз звяртаецца да розных інстанцый з такой просьбай. Але Горкам не да роварных дарожак – як гаворыцца, бярыце шырэй! Напрыклад, сп. Руднік узяўся ўласна кантраляваць добраўпарадкаванне дарогі , якая вядзе з расейскага боку, на смаленскім напрамку, да Воршы і далей – да Горак.

***(Пачатак. Заканч. на стар.  3)***

# Юрый Новікаў: Не трэба апускаць рукі, нічога немагчымага і вечнага няма!

*(Заканчэнне. Пачат. на стар. 1)*

*Ці гатовы вы супрацоўнічаць з уладай? Калі так, то на якіх умовах?*

Супрацоўнічаць можна з тымі з кім у цябе агульныя мэты ці хоць бы погляды на праблемы і шляхі іх вырашэння. Мэты і задачы цяперашняй улады – любым коштам утрымацца ва ўладзе, усё астатнее для іх, як кажуць, да лямпачкі.

*Як дастукацца да простых магілёўцаў і ўцягнуць іх у палітыку? Што для гэтага трэба рабіць?*

Як кажуць, калі ты не займаешся палітыкай, то палітыка займаецца табой. Але ў нашай сітуацыі не тое што займацца палітыкай, а нават размаўляць на гэтую тэму не заўсёды небяспечна і таму шмат прыкладаў калі людзей звальнялі з працы або выключалі з навучальных установаў толькі за тое, што яны выказвалі сваю думку або крытычна ставіліся да пазіцыі дзяржаўных дзеячаў.

Праблема гэта не простая. Дзяржаўная рэпрэсіўная машына працуе на поўных абаротах і ўсе гэта добра бачуць і разумеюць. Але, не гледзячы на гэта, відавочна, што страху ў людзей ўсё меней і меней. Другое пытанне як гэтаму гвалту супрацьстаяць? На працы кантрактная сістэма, на вуліцы АМАП, у загашніку ні рубля, толькі пазыкі ды банкаўскія крыдыты, куды тут дзёргацца? І так усё вельмі тонка...

Я ўдзельнічаў ва ўсіх без выключэння выбарчых кампаніях, ці то ў якасці назіральніка, сябра камісіі, даверанай асобы кандыдата і нават сам двойчы вылучаўся кандыдатам у дэпутаты, таму шмат сустракаўся з выбаршчыкамі і добра ведаю іх настроі. Калі нехта, нават з маіх паплечнікаў кажа, што народ нічога не ведае і не разумее – гэта няпраўда, проста жыццё заставіла нашых людзей быць вельмі асцярожнымі ў сваіх словах і дзеяннях яшчэ з савецкіх часоў.

На мой погляд пачынаць трэба з маленькіх крокаў і акцый салідарнасці. Зразумела, што ніхто нам не дасць магчымасць сабраць вялікі мітынг ці сход. Усё гэта сёння пад забаронай. Але скажыце, хто можа нам забараніць, напрыклад, адначасова паставіць у вечары зніч на падаконнік ці, напрыклад, выбраць




адзін дзень і не хадзіць у крамы і гэтак далей. Мы ўсе павінны пад нечым аб’яднацца, хай сабе і зусім на першы погляд нязначным. Галоўнае адчуць тое, што мы разам. Нажаль пакуль гэта у нас не атрымоўваецца. Улада таксама імкнецца кансалідаваць грамадскаць, але пад нечым пагражаючым, страшным. Тысячы ідыёлагаў пры падтрымцы дзяржаўных СМІ штодзённа распавядаюць пра пагрозу тэрарызма, “пятай калоны”, замежных ворагаў, але беларусаў не так проста ахмурыць, яны нутром чуюць дзе падвох.

Улада будзе рабіць усё, каб не выпусціць ініцыятыву са сваіх рук, каб не даць магчымасці грамадству кансалідавацца вакол апазіцыі. Але не трэба апускаць рукі, нічога немагчымага і вечнага няма.

*На якой пасадзе вы бачыце сябе, у выпадку перамогі дэмакратаў?*

Шчыра кажучы ніколі над гэтым пытаннем не задумваўся. Працы хопіць усім, былі б жадаючыя, можа і я на што згаджуся. Гэта будзе вельмі цяжкі і складаны час і яго прыйдзецца перажыць, але другога выйсця у нас няма.

*Вашыя пажаданні гараджанам*

Нашым гараджанам я хачу пажадаць ніколі ні губляць аптымізму і ніколі не здавацца, на працы патрабаваць дастойнага заробка і добрых умоў. Па месцы жыхарства чысціні і парадку, ну а ў асабістым жыцці, як кажуць, жадаю шчасця і здароўя.

***Гутарку вёў Ігар Барысаў, “Наш Магілёў”***

## Глава Могилевского горсовета: цены в Беларуси практически сравнялись с ценами в России

Цены в Беларуси практически сравнялись с ценами в России, но продолжают расти, заявил на сессии Могилевского городского совета депутатов 28 февраля его председатель Федор Михеенко, передает БелаПАН.

«В настоящее время цены в нашей стране практически сравнялись с ценами в России. Таким образом, объективных причин для их роста практически нет. Однако статистика свидетельствует, что они продолжают расти, и только за январь выросли на 5%, несмотря на то, что доллар, в общемто, стабилизировался», — сказал глава горсовета.

«Если так будет продолжаться и дальше, то планируемый рост зарплаты не сможет улучшить благосостояние наших людей», — считает он.

По словам председателя Могилевского горисполкома Станислава Бородавко, средняя зарплата в Могилеве в декабре 2012 года должна составить 4 млн. 220 тыс. рублей, а среднегодовая — 3 млн. 214 тыс. рублей.

Среднемесячная заработная плата в Могилеве за декабрь 2011 года составила 2 млн. 893 тыс. рублей, в то время как областной властью городу было доведено задание в 3 млн. 175 тыс. рублей. Об этом председатель Могилевского облисполкома Петр Рудник сообщил 17 февраля на собрании представителей трудовых коллективов по итогам социально-экономического развития города за 2011 год.



### Справка “МВ”

Номинальная начисленная заработная плата на Могилевщине в январе 2012 года составила Br2 595 тыс. Темп ее роста к аналогичному периоду 2011-го — 202,5 %.

За январь по уровню заработной платы наш регион расположился на 3-ем месте, опередив Брестскую, Витебскую и Гродненскую области.

## ЗВЫКЛЫМ АЎРАЛЬНЫМ СПОСАБАМ

*(Заканчэнне. Пачат. на стар. 1)*

Як жа!, — адтуль жа паедуць на наша свята расейскія сябры і трэба, каб іх менш трэсла па дарозе…

Рэпліка наконт роварных дарожак – не журналіская прыдумка. На гэтыя лісты і адпаведна на самую прапанову сп. Руднік сапраўды адрэагаваў гучна і кантрэтна, падчас правядзення паседжання штаба. Пры гэтым ён увогуле застаўся незадаволены ініцыятыўнасцю і стараннем насельнікаў Горак добраўпарадкаваннем горада з іхнага боку і навядзеннем парадку. Вось тут і прагучала, маўляў, замест таго, каб наводзіць парадак на вуліцах і ў дварах, людзі пішуць нейкія недарэчныя лістыскаргі, у прыватнасці пра роварныя дарожкі…

У астатнім, як і сп.старшыня ўрада, кіраўнік вобласці застаўся больш-менш задаволены тэмпамі і якасцю будаўнічай працы на асноўных аб’ектах “Дажынак”. Для гарантавання таго, што ўсе асноўныя аб’екты мусяць паўстаць і быць гатовымі да эксплуатацыі да траўня, сп.Руднік загадаў выправіць адставанне там, дзе яно ёсць, і ліквідаваць недахопы за тыдзень. Адмыслоўцы лічаць, што такое наўрад-ці магчымае, але такая з вонкавага выгляду жорсткая манера вядзення штабоў засталася ў спадчыну ад савецкіх яшчэ часоў і носіць назву “аўрала”, звыклага і для кіраўніцтва, і для будаўнікоў. Калі нада, то будзем працаваць у 3-ы змены, — пацвердзіў аўральны метад на практыцы і сп. Балоцін, начальнік абласнога ўпраўлення будаўніцтва. А сп. Руднік на гэты конт нагадаў і пра такую патрыятычную традчыцыю як суботнікі. Такім чынам горад напружыўся цяпер, як пра гэта паведамляюць незалежныя інфарматары, у чаканні тых самых “святаў працы”.

…Не хочыцца нічога прадракаць, але ж ад тых жа Шклоўскіх часоў вядзецца і такая “традыцыя” – на аб’ектах, здадзеных аўральным спосабам, адвальваецца тынкоўка, лопаюцца трубы і злятае з дахаў чарапіца, правальваецца асфальт (нават і да судовых пакаранняў будаўнікоў даходзіла, у Бабруйску, напрыклад, пасля тамашніх “Дажынак” па-за летась)

Але не дарма гаворыцца: звычка— другая натура!

***Віктар ВОЙТ***

## У Магілёве будуць караць за прымус да ўступлення ў “Белую Русь”




Пра гэта паведаміў чыноўнік з гарвыканкаму Ігар Шардыка.

Падчас пашыранага пасяджэння савета “Белай Русі” Ленінскага раёна горада было адзначана, што шэрагі арганізацыі папоўніліся новымі членамі. На гэта Ігар Шардыка адзначыў, што прымушаць людзей уступаць у арганізацыю нельга. Калі будуць выяўлены такія факты, то вінаватыя будуць строга пакараны, паведамляе Еўрарадый са спасылкай на сайт mysity.by.

## КГБ займётся выборами

Александр Лукашенко принял участие в коллегии Комитета государственной безопасности и поставил задачи наследникам «железного Феликса».

Центр информации и общественных связей КГБ подготовил к мероприятию информационно-аналитические материалы.

В них говорится, что главным приоритетом деятельности спецслужбы в этом году останутся «защита конституционного строя» и «недопущение навязывания республике извне политического курса, не отвечающего ее национальным интересам».

В частности, задача на 2012 год – «обеспечение безопасности, свободы волеизъявления, иных конституционных прав граждан в ходе проведения выборов в Палату представителей».




## Магілёўскія бяздомнікі атрымаюць шанец



У Магілёве з’явіцца 20 месцаў для бяздомнікаў. Тут створаць цэнтр часовага начнога перабывання для людзей без вызначанага месца жыхарства.

Займаць ложак у спецыялізаваным цэнтры бяздомны зможа цягам трох месяцаў. Падчас тэрміну ён мусіць актыўна шукаць працу. Яму дапамогуць аднавіць дакументы і паспрыяюць сацыяльнай адаптацыі. Праз тры месяцы кіраўніцтва цэнтру будзе прымаць рашэнне, ці варта працягваць тэрмін перабывання чалавека. Бяздомных без жадання адаптавацца ў грамадстве і ўладкоўвацца на працу будуць высяляць.

Установу арганізуюць на базе цэнтру сацыяльнай адаптацыі для асобаў, вызваленых з месцаў пазбаўлення волі, які адносіцца да Магілёўскага ўпраўлення ўнутраных справаў. Звычайна ў ім знаходзілі прытулак 10–12 чалавек, але гэтаю зімою колькасць бамжоў вырасла да 18. З 1 сакавіка цэнтр пяройдзе на баланс Магілёўскага гарвыканкаму, зменіць назву і павялічыць колькасць ложкаў.

“Бяздомнікамі становяцца з розных прычынаў, але часцей за ўсё пасля вызвалення з турмы. Калі людзі аказваюцца на волі, шмат каму няма куды вяртацца, – кажа міласэрная сястра Таццяна Петручэнка. – Напрыклад, на гэтым тыдні ў святыню за дапамогаю прыйшоў мужчына, які адбываў тэрмін за нявыплату аліментаў. Дом, дзе ён раней жыў, за два гады стаў непрыдатны для жыцця, адтуль вынеслі ўсё, нават лямпачкі. Пакуль ён уладкоўваецца на працу, яго пусцілі да сябе суседзі, але так шанцуе далёка не ўсім. Цэнтр, дзе б бамжы маглі пажыць некаторы час, дапаможа шмат каму вярнуцца да нармальнага жыцця”.

Цяпер на ўліку ў органах унутраных справаў Магілёўскай вобласці зафіксаваныя 164 грамадзяніны без вызначанага месца жыхарства, большасць з іх – у Магілёве і Бабруйску.

***belsat.eu***

экaномiка

# Леанід Заіка: Няхай члены ўрада захоўваюць свае зберажэнні ў рублях




*Леанід Заіка*

Пакуль стаўка рэфінансавання больш за 35%, і рублёвыя дэпазіты ідуць па 3-4% у месяц - гэта добра, але такая сітуацыя хутчэй за ўсё скончыцца да мая. Таму ёсць магчымасць 2-3 месяцы яшчэ “паскакаць”, а потым даць магчымасць захоўваць дэпазіты ў рублях членам урада.

Такое меркаванне ў інтэрв’ю карэспандэнту сайта “Товарищ.online” выказаў кіраўнік Аналітычнага цэнтра “Стратэгія”, эканаміст Леанід Заіка.

- Леанід Фёдаравіч, з пачатка месяца курс долара ўпаў на 200 пунктаў. “Зайчык” становіцца на ногі?

- Любы разважлівы беларус і іншаземец-фінансіст разумее, што калі раптам Беларусі даюць крэдыт на 10 мільярдаў, а хутчэй за ўсё на 12 мільярдаў долараў, пад будаўніцтва АЭС, то валюта ў краіне будзе.

- Гэта і дазволіла ўмацаваць рубель?

- Што тычыцца ўмацавання беларускага рубля. Мы ўсе разумеем, што калі рубель грукнуўся з 3 тысяч да 9 асаблівага эканамічнага сэнсу ў гэтым не было, акрамя як рабаванне працоўных. Напярэдадні прыватызацыі ва ўсіх постсавецкіх краінах, як правіла, стваралася зусім жудасная дэвальвацыя. І калі нацыянальны капітал страціў прыкладна 2/3 у выніку дэвальвацыі 2011 года, то лёгка ўявіць, колькі страціла насельніцтва. Сёння няма заканамернасці ў руху беларускага рубля. Ёсць ваганне вакол нейкай кропкі раўнавагі, а яна знаходзіцца дзесьці ў раёне 8,5 тысячы плюс-мінус 5%.

- Ці можна казаць, што фінансавы крызіс мы мінулі, бо яшчэ паўгады таму былі прагнозы, што долар лёгка пераскочыць планку ў 10 тысяч?

- Трэба мець на ўвазе, што асноўныя праблемы не вырашаныя. Меркаваныя дзеянні Урада, якія будуць прыняты ў бліжэйшы час, прывядуць праз 2-3 месяцы да парушэння раўнавагі асноўнай макраэканамічнай тоеснасці. Гэта прывядзе да разбалансавання курсу нацыянальнай валюты.

- Але, паводле ацэнак спецыялістаў, цяпер спрыяльны час для захоўвання зберажэнняў у банках менавіта ў рублях...

- Гэты момант ужо праходзіць. Так і напішыце: “Беларусы, будзьце ўважлівыя!” Пакуль стаўка рэфінансавання больш за 35%, і рублёвыя дэпазіты ідуць па 3-4% у месяц - гэта добра, але такая сітуацыя хутчэй за ўсё скончыцца да мая. Таму пакуль ёсць магчымасць 2-3 месяцы можна яшчэ “паскакаць”, а потым трэба даць магчымасць захоўваць дэпазіты ў рублях членам урада.

- Чаму ў Вас такія песімістычныя прагнозы?

- Стаўка дэпазіту сёння больш высокая, чым інфляцыя. Але, пасля павелічэння заробкаў, пенсій і дапамог, у людзей з’явіцца больш наяўных грошай, гэта прастымулюе ўнутраны попыт і таму развяжа інфляцыю. А пры высокай інфляцыі, беларускі рубель, як сродак зберажэнняў, будзе неэфектыўны.

## Белстат: Сярэдні заробак 2 млн 880 тыс.



Налічаны сярэдні заробак работнікаў у Беларусі ў студзені 2012 года склаў 2 млн. 880 тыс. 585 рублёў (у снежні 2011-га было Br2 млн. 877 тыс. 658), паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт.

Па статыстычных дадзеных, налічаны сярэдні заробак рабочых і служачых быў роўны ў студзені2 млн. 911 тыс. 250 рублям, паведамляе БелТА.

# Катастрофа для государства

Обожаю наших чиновников. Они нет-нет да и расскажут такую правду о «государстве для народа», что хуже всякой лжи, которую только способны придумать «клеветники» и «злопыхатели».

На этот раз первый вице-премьер Владимир Семашко, сам того не заметив, разоблачил «уникальную экономическую модель», о беспримерной эффективности которой уже полтора десятка лет талдычат белорусские власти. Нахваливая сделку с «Газпромом», заместитель Михаила Мясниковича сказал (цитируется по interfax.by):

– Если бы мы не подписали соглашения в пакете, то у нас цена газа была бы сегодня более 300 долларов (за тысячу кубометров). У нас была бы катастрофа, коллапс еще хуже, чем в прошлом году.

В этой связи стало интересно, как обстоят дела у наших соседей, которые лишены счастья строить свою жизнь на прочном фундаменте «передовой экономической политики». Выясняется, что все они платят за газ гораздо больше, чем 300 долларов.

Так, по данным «Коммерсанта», Литва в 2011 году рассчитывалась с «Газпромом», исходя из ставки 356 USD за тысячу кубов. А полякам, как сообщает «Газета.Ру», российский газ обходился и вовсе по 480-490 USD. Нелегко приходится и украинцам. По информации РИА «Новости», в прошлом году цена для них составляла 400 долларов за тысячу кубометров, а в I квартале нынешнего выросла до 416 USD.

При этом экономическая модель у соседей, сами понимаете, не чета нашей. И коль уже даже Беларусь, по признанию Семашко, при 300 долларах за тысячу кубометров газа ждала катастрофа, то страшно представить себе, что творится в Литве, Украине, Польше… Надо полагать, там уже наступил конец света?

Ничуть не бывало. Живут себе потихоньку украинцы и литовцы – получше нашего. А поляки вообще уже имеют среднюю зарплату 1300 долларов, которую белорусам родное правительство обещает только к 2020 году.

Выходит, коллапс при цене 300 USD за газ наступает только в одной отдельно взятой стране. Именно той, руководство которой кичится своей экономической политикой, а собственные провалы списывает то на «происки врагов», то на «неблагоприятные внешние обстоятельства». Но на самом деле, катастрофой для государства является не та или иная цена на газ, а авторитарная и несменяемая власть.

***Вадим Ливнев, “Салідарнасць”***

# ЯК ГАСІЦЬ ЭКАНАМІЧНЫЯ ПАЖАРЫ




Напрыканцы студзеня ў СПК “Вадвянскае” у Шклоўскім раёне згарэў цялятнік. Як гаворыцца, мала што гэтае сельгаспрадпрыемства і без таго выклікае пэўную заклапочанасць і нават трывогу. Будучыня ў гаспадаркі пакуль надта цмяная, хаця згінуць яму мясцовая ўлада хутчэй за ўсё не дасць. Бо навошта тады гады тры таму цягнулі сюды жывёлагадоўчую гаспадарку і заманьвалі людзей прыстойнымі заробкамі і сучаснай тэхналогіяй. А вось пра што не падумалі, так пра тое, а што будуць пасля працы рабіць людзі ў вёсцы Дабрэйка, цэнтры “Вадвянскага” – ніякіх астраўкоў цывілізацыі тут і блізка няма. А дарога на Шклоў і на Магілёў ледзь не па вёсцы праходзіць, вось маладыя людзі і збягаюць па ёй у розныя бакі, непаспеўшы замацавацца. Бо і тэхналогія аказалася не такой ужо і сучаснай, і заробкі не такімі высокімі…

Неяк атрымліваецца ледзь не заканамерна тое, што тут здарыўся пажар,які пакінуў ад комплекса “рожкі ды ножкі”. Загадчыца комплекса, што выконвае абавязкі ўслед за чарговым кіраўніком, які з’ехаў адсюль, ніякімі сапраўднымі сельскагаспадарчымі ці заатэхнічнымі ведамі і практычнымі навыкамі ў гэтых галінах не валодае. Яна сумленны чалавек і надзейная работніца —таму і прызначалі. Але гэтага ў напружанай сытуацыі аказалася мала. Як пачалі мёрзнуць жывёлы ў сваім фермавым памяшканні, то ніякага іншага выйсця як пачаць адкрытым агнём адаграваць замёрлыя трубы ацяпляльнай сістэмы ні яна, ні ейныя памочнікі не знайшлі… Урон, які нанеслі гаспадарцы – некалькі сотняў мільёнаў рублёў асноўных сродкаў (дакладна яшчэ падлічваецца).

А ўсяго толькі два гады таму, як раёнка пад натхняльнай назвай “Ударны фронт” гэтаму ж цялятніку прысвяціла і такі ж натхняльны рэпартаж. Кіраўнікі прадпрыемства тады атрымалі прэміі і граматы (дырэктар – 6 млн. яшчэ “тых” рублёў, што было не так і мала). Ну, а праверкай дасканаласці праекту фермы і яго якаснага выканання не было, відаць, часу заняцца. Вось у самы непадыходзячы момант ацяпляльная сыстэма і сказала сваё прыкрае слова. Людзі, пакрэслім, на шчасце, не пацярпелі. Урон будзе ацэнены і раскінуты на вінаватых, хутчэй як сведчыць практыка, на вінаватых назначаных, а менш – на рэальных.

Аднак і з людзьмі ў нас далёка не ўсё добра. Яны церпяць ад свайго, калі так можна сказаць, агульнага жыцця. А раён, у сваю чаргу – ад іх. У апошнія 17 год (кропка адліку не выпадковая, бо менавіта столькі год таму мы пачалі “новае жыццё”) з мапы Шклоўскага раёна штогод практычна знікае ў нябыт умоўны аграгарадок з працоўным насельніцтвам у 450-500 чалавек. Пры гэтым натуральная нястача людзей складае прыкладна 300 чалавек у год, а нястача па міграцыённых прычынах налічвае прыкладна 200 чалавек. Такім чынам ніяк не менш, чым 700 чалавек штогод знікаюць з раёна – гэта можна лічыць паспяховым вынікам развіцця?!..

Але ж кіраўніцтва раёна адчувае сябе спакойна, бо магчыма, што сапраўды давярае вось такой афіцыйнай статыстыцы. Узровень беспрацоўся на Шклоўшчыне падлічаны і прыняты за арыенцір такі вось — 0,5% , а саміх беспрацоўных у нас зафіксавана 59 человек (уражвае такая дакладнасць, праўда?!). На шчасце для статыстыкі, не менш як 300 чалавек, што звольніліся за апошнія паўгода з будаўнічых арганізацый горада і раёна, не станавіліся на ўлік, а адразу з’ехалі ў Расію. Затое іншае пытанне міжволі ўзнікае – а навошта тады, для рэгістрацыі ўсяго-та 59 чалавек трымаць у адпаведным аддзеле статыстычнага камітэта і ў аддзеле сацыяльнай абароны поўны штат супрацоўнікаў, колькасць якіх не намнога і меншая за колькасць іхных падапечных, каму рэальна з працай дапамагчы яны не могуць (мала, што рабочых месц няма, так і фермы гараць).

А вось каб сродкі, на якія ўтрымліваюцца гэтыя статыстыкі-сацыяльнікі-абаронцы людзей, перакінуць на рэальную дапамогу беспрацоўным, на стварэнне новых працоўных местаў у раёне, — карысці было б несумнеўна больш.

***Пётр Мігурскі, кандыдат эканамічных навук***

## Вяскоўцы не вераць у мінімальны заробак у памеры адзін мільён рублёў



На інтэрнэт-сайце Клічаўскай раённай газеты “Сцяг Саветаў” днямі з’явіўся інфармацыйны матэрыял «Минималка»? Не ниже миллиона рублей!”. У артыкуле галоўны спецыяліст упраўлення па працы,занятасці і сацыяльнай абароне Клічаўскага райвыканкама Таццяна Мацюшонак распавяла карэспандэнту газеты пра тое, што зараз мінімальная зарплата ў Рэспубліцы Беларусь не можа быць меншай за 1000000 рублёў. Калі заробак у працаўніка меншага памеру, то наймальнік, згодна заканадаўства, абавязаны даплаціць працаўніку да памеру мінімальнага заробка.

Пасля з’яўлення матэрыяла артыкул на сайце пракаментаваў працаўнік адной з гаспадарак Клічаўскага раёна (арфаграфія арыгінала захавана): “Евгений: Не знаю как в остальных, но в колхозе Буденного платят и по 300 и по 400 тысяч в месяц и плевали на размер минимальной зарплаты.

Уважаемые журналисты могут сами поинтересоваться размером зарплаты колхозников, но не у председателя или бухгалтера, а у простого колхозника”.

Пагаджаецца з Яўгеніем і іншы наведвальнік сайта, Наталля: “Есть информация официальная и есть люди, которые прекрасно знают, какова реальная ситуация с зарплатой. Поэтому именно здесь нужно оглашать правду. Согласиться или не согласиться с прочитанным.

Честно говоря, как за эти копейки можно прожить? Коль прожиточный минимум около 700 тысяч. Грустно”…

*(Пачатак. Закан. на стар. 6)*

*грамадства*

# Кастусёў прапануе дапамагчы “вэртыкалі” ў папулярызацыі беларускай мовы



***Рыгор Кастусёў***

Намесьнік старшыні партыі БНФ Рыгор Кастусёў прапанаваў Магілёўскаму аблвыканкаму дапамогу ў папулярызацыі беларускай мовы.

Палітык адправіў ліст старшыні абласной выканаўчай улады Пятру Рудніку, у якім зьвярнуў увагу на звужэньне ўжытку нацыянальнай мовы беларусаў у рэгіёне.

Як сьцьвярджае былы кандыдат у прэзыдэнты зацьверджаны кіраўніком вобласьці «Комплекс першачарговых мер Магілёўскага аблвыканкаму па папулярызацыі беларускай мовы на 2010-2012 гады» не выконваецца.

«Партыя БНФ прапануе дапамогу ў рэалізацыі гэтай справы, каб па сканчэньні тэрміну дзеяньня ад „Комплексу мер папулярызацыі мовы“ быў плён. Магілёўская вобласьць была адзінай, якая прыняла такі плян дзеяньняў, але да жалю, даводзіцца канстатаваць, што за два прамінулыя гады пайшоў працэс у звужэньні выкарыстаньня беларускай мовы на Магілёўшчыне. Дакумэнт стаў нібыта сыгналам для дзеяньня наадварот. З 40 пунктаў „Комплексу мер“ ніводзін не выконваецца. Калі чыноўнікі ня здольныя выканаць сваіх жа рашэньняў, партыя БНФ гатовая ім дапамагчы, каб потым не сказалі, што апазыцыя толькі крытыкуе і нічога не прапануе наўзамен. Гэта наш крок насустрач. Мы гатовыя да супрацы ў папулярызацыі мовы», заяўляе Рыгор Кастусёў.

У лісьце Рудніку Кастусёў даводзіць, што чыноўнікі адмаўляюцца даваць адказы на беларускай мове, альбо выдаваць дакумэнты па беларуску. Цягам апошніх год, зазначае палітык, у рэгіёне мяняюць беларускамоўныя шыльды назваў вуліц і ўказальнікаў паселішчаў на расейскамоўныя. Скарачаецца колькасьць навучальных установаў зь беларускай мовай выкладаньня.

«Комплекс першачарговых мер Магілёўскага аблвыканкаму па папулярызацыі беларускай мовы на 2010-2012 гады» быў зацьверджаны Пятром Руднікам 31 сьнежня 2009 году. Пра ход ягонай рэалізацыі зьвестак у даступных крыніцах інфармацыі вельмі мала.

***Радыё Свабода***




## Вяскоўцы не вераць у мінімальны заробак у памеры адзін мільён рублёў

***(Заканчэнне. Пачат. на стар. 5)***

Як тут не ўзгадаць, што напрыканцы студзеня гэтага года Магілёўская абласная аграпрамысловая газета “Зямля і людзі” апублікавала матэрыял пад рубрыкай “Ярмарка вакансій”, у якім адразу некалькі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў вобласці абяцалі плаціць сваім працаўнікам заробкі, ніжэйшыя за мінімальную заработную плату…

Не сакрэт, што ў перыяд да пачатку вясновай пасяўной кампаніі, з мэтай эканоміі грашовых сродкаў, у многіх гаспадарках Магілёўскай вобласці працаўнікі, акрамя занятых у жывёлагадоўлі і на абслугоўванні жывёлагадоўчых фермаў і комплексаў, у масавым парадку пераведзеныя на скарочаны працоўны дзень. Гэта дазваляе наймальнікам скарачаць і без таго мізэрныя заробкі вяскоўцаў. Такія дзеянні адміністрацый сельскагаспадарчых прадпрыемстваў ніякіх пярэчанняў з боку “абаронцаў правоў працоўных” з праўладных прафсаюзаў не выклікаюць.

***Барыс Вырвіч***

## ЦАРСКАЯ ПОЛИЦИЯ БЫЛА ЭФФЕКТИВНЕЙ СОВРЕМЕННЫХ МИЛИЦИОНЕРОВ

Как сообщило «Радыё Свабода», в Беларуси насчитывается наибольшее количество милиции на душу населения среди стран СНГ и Восточной Европы. На каждых 1000 жителей Беларуси приходится 14 милиционеров. На втором месте находится Россия: 9,7 полицейских на 1000 человек, на третьем Казахстан — 7,1. В Украине на 1000 жителей приходится 6,5 представителей правоохранительных органов, в Грузии — 5,6, в Азербайджане — 4,6.

Эти цифры интересно сравнить с данными дореволюционного времени. В Советском Союзе бытовало мнение, что царизм обладал гигантским репрессивным аппаратом для подавления революционных волнений и народных возмущений. Но исторические исследования показывают, что скорее можно говорить об обратном. Например, в Климовичах до первой мировой войны на весь город был один полицейский надзиратель и 12 городовых. Этого количества правоохранителей вполне хватало для обеспечения порядка и ареста злоумышленников. А в Могилеве, который являлся центром губернии, до революции было меньше полиции, чем в современном районном городе. По данным на 1913 год покой могилевских жителей охраняли 144 полицейских всех чинов и званий. На 70 тысяч городского населения в штате полицейского управления Могилева имелось всего 4 следователя. И преступность, кстати, тогда не достигала нынешних размеров.

А вот ещё факт для размышления. Бывший премьер Беларуси Михаил Чигирь, который возглавлял правительство в 1994–1996 гг., считает одной из самых затратных для бюджета страны служб — МВД. По его словам, если сравнить численный состав МВД Беларуси и Польши, то он практически одинаковый. Но население Беларуси 10 млн., а Польши — 40 млн. Милиционеров в стране может быть наполовину меньше. «На мой взгляд, можно смело в два раза сократить численный состав МВД, — убежден М. Чигирь. — Это позволит сэкономить более 500 млрд. руб. из бюджета. Чтобы вы представляли «цену» этих денег, напомню, что на систему ЖКХ и строительство жилья для малообеспеченных белорусов из бюджета-2010 выделено 85 с половиной миллиарда рублей».

***ДАНИЛА МЕСТИЧ***

# ЗУСІМ НЯЎТУЛЬНА Ў ХАЦЕ НАШАЙ



**"Надо создавать выгодные условия для работы дома, тогда люди не будут уезжать за пределы нашей страны".**

***А. Лукашэнка***

Вось такі, нада прызнаць, даволі дакладны рэцэпт вырашэння праблемы, якая апошнім часам відавочна абвастрылася, дае кіраўнік нашай дзяржавы... Вось толкі міжволі хочыцца запытацца – а каму адрасаваны рэцэпт, сабе? Бо хто гэтага не ведае? А, як вядома, стырно кіравання дзяржавай знаходзіцца ў руках толькі аднаго чалавека. І вось бачна, што ён разумее праблему і знае як з яе выходзіць. Чаму ж не робіцца?!

А тым часам крызіс на рынку працы дакаціўся нават і да нашага сціплага Чэрыкава. Ад нас ці не штомесяц, каб пазбегнуць жабрацкага становішча, з'язджаюць працаздольныя людзі з родных хатаў цэлымі "пачкамі". Яно, канешне, і раней немала чэрыкаўлян працавала ў Расеі. Але зараз, пасля нашых дэвальвацый-інфляцый рвануў народ на заробкі не толькі да "старэйшага брата", а нават і падалей. Хаця галоўным прыстанкам для чэрыўскіх шукальнікаў лепшай долі застаецца ўсходняя суседка. Асабліва для будаўнікоў. І вось атрымліваецца, што браткі-беларусы адбудоўваюць чужую краіну. Бо ў сваёй "процветающей и стабильной" працы няма. Ад правільнга рэцэпту да выздараўлення і шлях доўгі сам па сабе, ды і намаганняў на гэтым шляху нешта не бачна – адны размовы. Ну, а народу, як мне здаецца, збольшага ўсё роўна — зарабілі капейку, і на тым дзякуй.

… Але ўсё ж давайце паспрабуем бліжэй разгледзіць людзей у твар - хто з'язджае, і як яны там зарабляюць на хлеб штодзённы. Павінен сказаць, што апошнім часам голым вокам добра бачна, колькі людзей з'ехала. Шмат маіх суседзяў, сяброў, знаёмых і нават родзічаў папаўняюць свой сямейны бюджэт, умацоўваючы чужую эканоміку.

Днямі сустрэў свайго суседа Мікалая. Даўно не бачыліся, хаця працаваў Мікалай у нашым горадзе на будоўлі жылых аб'ектаў і я заўсёды цікавіўся, дзе ў нас увойдзе ў эксплуатацыю чарговы новы дом. (Я з здавальненнем у такіх выпадках раблю здымкі шчаслівых навасёлаў для нашай туташняй вольнай газэткі). Аказалася, што Мікалай трываў заробак крыху больш як мільён колькі мог, але здаўся нарэшце. Ну, як у нашых цэнах можна пражыць сямьі за такія грошы?!...

Кінуў сусед урэшце родны горад ды паехаў у Расею. А следам, як хутка дазнаўся, і чэрыкаўкія забудоўшчыкі спыніліся – заціхла наша жыллёвае будаўніцтва. Так што сусед угадаў, калі варта было меняць дыслакацыю. І вось цяпер у месяц зарабляе 1200 (беларусу паверыць у такое немагчыма!) даляраў ЗША.

А сын яго школьнікам яшчэ займаўся у нашым чэрыкаўскім фотагуртку. Потым скончыў Магілёўскі ўніверсітэт імя Куляшова. Адпрацаваў у чэрыкаўскай школе два гады з заробкам у … 600 тысяч рублёў. Ну, і канешне, кінуў школу, як толькі "адпрацаваў" дыплом. Да бацькі пакуль не даехаў, у абласным цэнтры прытуліўся на адной з будоўляў, якая яшчэ не спынілася. Набіраецца вопыту, і як толькі падцягне кваліфікацыю – паедзе ў тую ж Расею.

Як бачым, у Чэрыкаве няма працоўнага месца з прыстойным заробкам ні маладым, ні старэйшаму пакаленню. Але можна сказаць, што да майго суседа лёс паставіўся яшчэ добразычліва, калі ўвогуле можна так назваць жыццё ў адрыве ад сям'і.

Згодна даследавання, у Беларусь паступае недзе 1,3 млрд. даляраў ад эмігрантаў за мяжой. Гэта каля 2% ВУП. Адзін з аўтараў даследвання Аляксандр Лучанок падкрэсліў: "Гэта істотная падтрымка нацыянальнай эканомікі".

У нашай дзяржаве усё пралічваецца толькі праз прызму грашовых купюр. А хто падлічыў маральныя, духоўныя, фізічныя ды іншыя страты людзей?! Ды і краіны ўцэлым? А колькі нашых землякоў загінула ў Расіі?! Ці бачылі чыноўнікі, па віне якіх людзі з'язджаюць за мяжу, вочы дзяцей, бацькі якіх на заробках на чужбіне?..

Вось і тату майго яшчэ аднаго выхаванца па фотагуртку не абмінуў лёс "гастарбайтэра". Заробкі на прадпрыемстве, дзе ён працаваў, знізіліся. А сям'ю карміць трэба. Дзецям адукацыю даваць трэба. Вось і падаўся чалавек у "дальние края". І вось неяк бачу на занятках — у хлопчыка вочкі гарадь! Аказалася вось што — "Заўтра тата мой прыязджае!"

- Ці надоўга? – пытаюся.

- Ды не, на месяц усяго. З Расіі, дзе працуе. Даўно дома не быў. Але хоць месяц пабудзем разам…

- А што твой тата робіць ў той Расіі?

- Кіроўцам на машыне працуе. Грузы розныя дастаўляе з аднаго горада ў іншы…

- А я думаў, што дамы будуе там. Як многія іншыя нашы чэрыкаўляне…

- Будаваць дамы трэба дома!, — раптам па-даросламу заключыў нашу размову мой юны субяседнік.

… Чуеце, спадары дарослыя кіраўнікі краіны — будаваць дамы трэба дома! Нават дзеці гэта разумеюць.

***Сямён Панізоўцаў***

*усяго патроху*

# «Палітычны ананізм» і паўналецце беларускай дэмакратыі




Хадзіць ці не хадзіць? Вось пытанне, якое ўвесь час узнікае напярэдадні беларускіх выбараў на апазіцыйных кухнях.

Улада раз за разам б'е — або брутальна, як 19.12.2010, або акуратней, прэвентыўна-па-махлярску, як ў папярэдніх палітычных кампаніях. А апазіцыя… раз за разам ходзіць. «Хадзіць!»- амаль аднагалосна выгуквалі розныя партыі і рухі 15 год.

Ці не настаў час задумацца — да чаго ж мы «дахадзіліся» за гэты час?

1) Адбылася легалізацыя і ўмацаванне існага рэжыму. У вочных, закулісных і іншых амаральных змаганнях з апазіцыяй выкавалася яе ідэялагічная «зброя», выпрасталася ўладная вертыкаль і загартаваліся карныя органы.

2) Спынілася эканамічная трансфармацыя і развіццё краіны, для чаго былі даволі спрыяльныя ўмовы ў сярэдзіне і канцы 2000-х. Цяпер гэта будзе рабіць і больш балюча, і менш эфектыўна.

3) Наступствам удзелу у выбарах стаў і дзяржаўны пераварот 19.12.10, які ўсё ж такі адбыўся насуперак волі большасці людзей, жадаючых перамен. Плады «снежаньскай контррэвалюцыі» мы спажываем і сёння.

Яшчэ адным вынікам «хаджэння ў выбары» мог бы стаць юбілей беларускай дэмакратыі. Калі пачаткам лічыць 1994 год, то сёлета ў нас будзе «паўналецце» народаўладдзя.

Але нешта не адчуваецца свята і радасці ад таго, што «нам ужо 18». І справа, відаць, у тым, што тутэйшая дэмакратыя крыху «не тая», ці то «скрыўленая» ці, наадварот, «очань прамая». Незвычайнасць яе праяўлеецца, напрыклад, у тым, што занятак амаль усёй нашай апазіцыі ў апошнія гады можна смела назваць «палітычным ананізмам».

Візуальны «ўдзел» у палітыцы без доступу да «цела» (парламента і ўлады) з кожным разам усё больш нагадвае падлеткавую мастурбацыю пры падглядванні за «дарослымі цёцямі». Гэта ўжо стала беларускім палітычным рытуалам: асобным апазіцыянерам раздаюцца «абяцанкі-цацанкі» ў выглядзе рэгістрацыі ў ЦВК-наце, хлопцы, спрабуйце, мо зараз і ўдасца… Прычым усе ведаюць, што ўдасца зноў тое самае, бо да «цела» дапускаюцца толькі «правільныя і праверaныя члены».

Калі беларуская дэмакратыя сапраўды ўжо выйшла з падлеткавых гадоў, то трэба канчаць з гэтым псеўдавыбарным «ананізмам».

На маю думку, пакуль не адбудзецца змены выбарчага закону і самога механізму выбараў, удзельнічаць сур'ёзным, дарослым людзям у такіх ганебных актах не мае сэнсу.

Лепш устрыманне ад сэксу, чым хлапечае рукаблудства, ад якога, як вядома, не бывае ні дзяцей, ні ідэй, ні грошай, а адны фрустрацыі і комплексы непаўнавартасці.

***Васіль Аўраменка, медык (Магілёў)***

## Шестеро жителей Могилевщины с начала года погибли от переохлаждения

Шестеро жителей Могилевщины погибли от переохлаждения с начала года. Об этом сообщил главный хирург области Эдуард Воробей.

В основном это были пожилые люди. В некоторых случаях, к примеру в Белыничах и Чаусах, они замерзли в неотапливаемых частных домах.

Примерно половина из тех, кто обратился за медицинской помощью, находились в состоянии алкогольного опьянения. Многие обращались к врачам не сразу после обморожения, а спустя сутки и более. Кстати, в прошлом году от переохлаждения погибло около десяти человек.

## Краязнаўца са Шклова прапанаваў сваю версію забойства тысячагадовай даўніны

Міхаіл Кучарэнка лічыць, што святых князёў Барыса і Глеба забілі па загадзе Яраслава Мудрага, а не князя Святаполка, якога пазней празвалі “Акаянным”.

Да такой высновы шклоўскі краязнаўца прыйшоў пасля шматгадовага вывучэння старажытных рускіх летапісаў. Згодна меркавання Міхаіла Кучарэнкі, Яраслаў Мудры загадаў забіць сваіх братоў Барыс і Глеба таму, што яны заявілі аб сваёй вернасці Святаполку і пакляліся “паважаць яго як бацьку свайго”.

Шклоўскі краянаўца таксама сцвярджае, што забойства князя Глеба ў 1015 годзе адбылось на Дняпры непадалёк ад сучаснага Шклова. У абарону сваёй версіі ён падрыхтаваў вялікі артыкул, дзе выкладае свае меркаванні на гэты конт.

Яшчэ адзін пераканаўчы доказ таго, што ўсе значныя падзеі на нашай зямлі пачыналісь менавіта са Шклова .

***Багдан Іваноў***

## У Бялыніцкім раёне жанчына пасекла на кавалкі свайго мужа



Здарэнне адбылося ў вёсцы Гнездзін Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці.

У суботу там знайшлі расчлэнены труп 85-гадовага мужчыны. У здзяйсненні злачынства падазраецца яго жонка-аднагодка.

Як паведамляе БелаПАН, раскладзеныя па тазах часткі чалавечага цела — рукі, ногі, галаву — заўважылі суседзі, якія паведамілі ў міліцыю. Падазраваная змешчана ў абласную псіхіятрычную лякарню.

***euroradio.fm***

*магілёўскі* **Выбар**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас офіса: Магілёўская воб., Бялыніцкі р-н, аг-к В. Машчаніца, вул Савецкая, д. 4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 29.02.2012 г. у 19-00.